# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1768) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 1 КРАСАВІКА 1990 г. ЦАНА 600 зл.




Вуліца ў Нараўцы. Фота Я. Целушэцкага.

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

Выкананне фінансавага плана БГКТ у мінулым годзе і сённяшняя эканамічная сітуацыя Таварыства былі асноўнай тэмай пасяджэння Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбылося 25 сакавіка г.г. План даходаў у мінулым годзе, дзякуючы ўплатам з канцэртаў і мерапрыемстваў, у агульным маштабе быў выкананы поўнасцю (5,3 млн. зл.), але ў паасобных раздзелах былі недахопы: не выкананы план збору членскіх складчын і продажу ўласных выдавецтваў. Гэта адмоўна сведчыць аб эфектах працы штатных працаўнікоў ГП БГКТ. Расходы Таварыства выкананы ў 89 працэнтах, што склала суму 72 мільёнаў злотых. У сітуацыі нявырашанай яшчэ канчаткова праблемы далейшага фінансавання нацыянальных таварыстваў 9 мільёнаў злотых з мінулага года былі выкарыстаны Таварыствам у першых месяцах г.г. Былі таксама разгледжаны прапановы павышэння зарплатаў для працаўнікоў Таварыства згодна з указаннямі Міністэрства культуры і мастацтва.

Прэзідыум ГП пазнаёміўся з інфармацыяй аб ходзе падрыхтоўкі да выбараў у самаўрады і пастанавіў звярнуцца да ўсіх членаў Таварыства з заклікам аказаць падтрымку беларускім выбарчым камітэтам.

(л)

ВЫБАРЫ '90

## УЗЯЦЬ СВОЙ ЛЁС У СВАЕ РУКІ

10 сакавіка Выбарчаму штабу ў Беластоку прыйшлося тугавата. Папсавалася машына, чорная „Волга", якою колькі ўжо гадоў раз'язджаюць босы БГКТ. Віктар Стахвюк, шэф Выбарчага штаба, знерваваўся звыш меры. А з ім і Міраслаў Пякарскі, і я. Нам трэба было тэрмінова ехаць у Ляўкова (каля Нараўкі) на ўстаноўчы сход Беларускага выбарчага камітэта ў Нараўчанскай гміне.

А тут — вазьмі і паедзь.

— Каб салідарнікі ведалі, якое ў беларусаў матэрыяльнае забеспячэнне выбараў, то лопнулі б ад смеху, — мімалётам кінуў Віктар гістарычную (хіба?) фразу, раз-пораз бегаючы з Міркам да суседа, каб тэлефанаваць да знаёмых і прасіць машыну. Урэшце — поспех. Хтосьці злітаваўся і пазычыў свайго „Фіата". Ледзь наскладалі 50 тысяч, каб купіць бензін.

Прыехалі ў Ляўкова з гадзінным спазненнем, а сёмай увечары. Гаспадары, аднак жа, не крыўдавалі. „Ведаем, як з той тэхнікай", — сказалі.

Сход прайшоў папросту выдатна. Людзі ўжо самі ведалі, што і як. Віктар быў крыху расчараваны такім паваротам справы: бо як жа так, нікога не трэба пераконваць, ні з кім не трэба змагацца?

— Яшчэ міне некалькі месяцаў, і мы з табою, Макс, з беларускіх экстрэмістаў станем кансерватарамі, — выказаў ён сумную рэфлексію, калі мы вярталіся пасля сходу ў Беласток.

— А ты думаў, што куды едзеш? У Ляўкове людзі талковыя, не абы-хто табе, — супакойваў яго Мірак Пякарскі, сам родам з Ляўкова.

На сходзе быў створаны 10-асабовы Беларускі выбарчы камітэт. Старшынёю выбралі Міхала Харкевіча (Старое Ляўкова), яго намеснікам — Міхала Засіма (Семяноўка), сакратаром — Ганну Янюк, настаўніцу беларускай мовы ў Нараўцы. Камітэт зоймецца ў першую чаргу вылучэннем сваіх кандыдатаў на выбары і стварэннем мясцовай выбарчай праграмы (выбарчай платформы Камітэта). Ёсць пра што пісаць у праграме. Клопату будучым нараўчанскім радным — хоць адбаўляй.

Трэба закончыць пабудову гміннага дома культуры ў Нараўцы. І пабудову гміннага асяродка здароўя. З кадрамі, пэўна ж, будзе клопат.

Трэба неадкладна пачаць пабудову ачышчальні сцёкаў (праект ужо гатовы). Крыху граша ўжо назбіралі ад мясцовых прадпрыемстваў і ўстаноў. Пра экалогію на Беласточчыне мала да гэтай пары дбалі. Бытуе легенда, што Беласточчына — гэта „зялёныя лёгкія" Польшчы, значыць, і вада тут чыстая, і паветра („край, дзе паветра не відаць", як калісьці-калісьці напісала Вера Валкавыцкая), і лясы, і ўсё такое. Калі няма вялікай прамысловасці, то няма і вялікага забруджання. На жаль, гэта толькі легенда. Малыя прадпрыемствы паскудзяць у прыроду таксама нічога сабе.

У Ляўкова трэба пусціць водаправод. Ад ракі Нараўкі, каля Гушчэвіны.

Семяноўскае вадасховішча: велізарная інвестыцыя, у якой утапіліся цяжкія мільёны, а можа і мільярды. Дабром ці бядою тое вадасховішча павернецца да гміны? З-за яго адышлі ў нябыт чатыры беларускія вёскі: Лука, Боўтрыкі, Рудня і Бахуры. Вакол вадасховішча ўжо раней была распланавана зона адпачынку. Зямля вакол яго парэза-

(Працяг на стар. 6)

## ПАДАЗРОНАЯ НАЦЫЯ

Амаль кожны жыхар Польшчы мог ужо даведацца, што ў Беластоку ўтварылася беларуская партыя — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Пры гэтай нагодзе я хачу звярнуць увагу чытачоў на тое, як справа ўзнікнення БДА была прадстаўлена ў польскай прэсе і прынята польскім грамадствам, асабліва на Беласточчыне.

Яшчэ не паспелі раз'ехацца ўдзельнікі I Кангрэса БДА, а па радыё і па тэлебачанні былі перададзены звесткі аб стварэнні гэтай арганізацыі. У сувязі з гэтым ужо вечарам 10 лютага мне званілі знаёмыя: адны пыталіся, што гэта за рух і навошта ён патрэбны, іншыя папярэджвалі мяне, што ўзнікненне БДА выкліча толькі падазрэнні і яшчэ большую непрыхільнасць палякаў да беларусаў. Здзіўляла мяне тое, што людзі, нічога не

(Працяг на стар. 2)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 367


**Надзея Артымовіч**

### З цыкла „ВЕРУ“

* ✲ *

У верасовых падарожжах
змрок вачэй
у коле неба
забіць памяць
дарога памяці
сцяжына срэбралістай памяці

памяць і сон
дом і памяць
памяць памяць

магічны лес дзяцінства
перадсвітальны дождж

першае Сонца
веру

* ✲ *

іржа твой цень
як музыка
у белых пальцах

адзін неабходны верш
іржа музыка цень

адзін неабходны верш
як матчынае маўчанне
апямелы парог

верш як час

## НЕСУЛАДДЗЕ

Не так ужо многім вядома, што вершы, падпісаныя прозвішчам Юрка Зубрыцкі, якія зрэдчасу паяўляліся ў альманахах „белавежцаў“ і ў „Беларускіх календарах“, прыналежаць пяру Георгія Валкавыцкага, заснавальніка „Нівы“ і яе шматгадовага (1956—1987) шэфа. Валкавыцкі, пад вокам і рукою якога ўзрасталі і сталелі ўсе нашы „белавежцы“, сам пісаў рэдка і мала (або, можа, мала публікаваў). На ягоны зборнічак „Рознагоддзе“ — своеасаблівы падлік і разлік з паэтычнымі схільнасцямі — склаліся ўсяго дзесяткі два вершаў.

Вершы ў зборніку з розных перыядаў, і пра рознае. Я вынес у загаловак гэтай кароценькай рэфлексіі слова „несуладдзе“, маючы перш за ўсё на ўвазе тэматычнае і стылістычнае несуладдзе зборнічка. Але, мабыць, яно непазбежнае, калі аўтар імкнецца даць чытачу паэтычнае асэнсаванне пройдзенага шляху, свайго „рознагоддзя“ і „рознароддзя“.

Уражвае што, калі памкнуцца хоць збольшага суаднесці вершы Зубрыцкага з творчасцю „Белавежы“? Перш за ўсё — прыглушаны лірычны пачатак. Зубрыцкі не лірык, ён халодны рацыяналіст, які асэнсоўвае лірычную нават тэму з пазіцыі вонкавага назіральніка, прасочваючы яе ўспрыманне праз абалонку засвоенай культуры і культурнасці. Ён, як большасць беларусаў, чалавек вяскова-гарадскі. На паўдарозе. У адным з лепшых, на маю думку, вершаў, „Пад лесам“, ён піша: „З'явіцца ноч, над табою застыне, / Чэмерам стомным водар пранікне — / Сальюцца ў мроях блуднага сына / Сцены Каносы з пошчакам Нікі“. Гэта вельмі добрая паэзія. Лаканічная, камунікатыўная, у якой вычуваецца пульс несуладдзя беларускай душы са светам. На жаль, не ўсе вершы ў зборнічку такія. Не ва ўсім мы адшукаем пад залежамі слоўнай руды, нярэдка адмыслова спрэсаванай, зіхатлівую дыяментавую іскрынку. Але ўсё ж такі: „З дзюнаў навеяла шыпшыны. / Скразіць ад мора халадок. / Пара дамоў — на ўзор птушыны / Нарэзаць рыфму ў свой радок“. („След“).

Міні-паэмка „Уваскрашэнне“ (паэтычны запіс аднаго з партызанскіх эпізодаў) паказвае сілу Зубрыцкага як майстра слова, але адначасова і ягоную слабасць у зладжанні формы са зместам. Эфекту „жывой прысутнасці“ аўтар, па-мойму, не дасягае. Твор застаецца ўсяго толькі стылістычным практыкаваннем, выкананым на зайздрасць спраўна і беспамылкова, але — практыкаваннем. І можна было б прывесці ці мала яшчэ цытатаў, разглянуць той ці іншы верш, пашукаць сугучнасці і несуладдзя ў паэзіі Зубрыцкага, каб паказаць, як аўтар змагаецца са слоўнай матэрыяй і наразае рыфму і рытм свайго рознагоддзя ў радок. Але гэтае я пакідаю чытачу ягонай кніжачкі. Сягнуць па яе варта, каб хаця крыху паўзірацца ў воблік самага неразгаданага, неспазнанага „белавежца“.

**Ян Максімюк**

---

**Юрка Зубрыцкі, „Рознагоддзе“,** *Выданне ГП БГКТ, Беласток 1989, Мастацкае афармленне Уладзіслава Петрука. Кніжку можна купіць у ГП БГКТ і ў рэдакцыі „Нівы“, а таксама заказаць па пошце: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11. Цана 1000 зл.*

Юрка Зубрыцкі
РОЗНАГОДДЗЕ

**З кнігі „Рознагоддзе“**

### ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯГНЕННЕ

Жывому — на шляху зямным
Прыродай вызначана гонка;
А мы — ў касмічныя чаўны,
А мы увысь — абганяць сонца.

І, ўзяўшы зоркі на прыцэл,
Якую ж ісціну адкрылі?
Зямля — касмічны карабель,
Ды мы у ім — не рулявыя.

### НА ВОЗЕРЫ ПАМОРА

Шуміць і возера і бор.
У чароце прытаіўся вечар.
А мне здаецца, што наўкол
Яцвягі клічуць нас на веча.

Продкі з жальбою у вачах,
Крутыя нас лучылі сцежкі.
Памора шум — вякоў працяг —
З'яднаны з гудам Белавежы.

Ля вашых выгасшых кастроў
Не племянныя тлеюць звады,
Гаючы возера прастор
Палае мірным даляглядам.

Зямля ад тупату дрыжыць
Ватагі юнай, гаманлівай.
У ім пачуў я гул дружын,
Што з конскаю зрасліся
грывай.



### ПАКРЫЎДЖАНАМУ

Трагедыя. Кіпіш без слоў.
У руках скамечана газета.
Дай табе волю — ты гатоў
З торбай пусціць хоць бы
паўсвету.

Эх, небарака, не дуры.
Чаго, уласна, табе трэба?
У патоку моднай мішуры
Цана якая вершам зрэбным.

Азмрочыўся (сам грамабой)
Чужым і крыўдным прыгаворам.
І падзяліў людзей, нябось,
На тых, хто добры, і хто вораг.

З дарадчыкамі пачакай,
Не спадзявайся звонку многа.
У сябе кіруй душы адчай,
Там твая сіла і падмога.

А калі выйдзеш на працяг
Ухабістым радком падспудным,
Ты самы строгі тут суддзя
І нераскаяны падсудны.

**Юрка Зубрыцкі**

**Едрусь Мазько**

### СПРОБА АЎТАБІЯГРАФІІ

*Нарадзіўся 29 жніўня 1970 года ў вёсцы Махро, што на Піншчыне. Скончыў Бачыцкую СШ у Кобрынскім раёне.*

*З 1987 г. вучуся ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. Студэнт гісторыі 3-га курса. Працую ў дом-музеі М. Багдановіча малодшым навуковым супрацоўнікам.*

*Лічу сябе вучнем еўрапейскіх паэтаў і беларускай паэтэсы з Польшчы Надзеі Артымовіч.*

### З НІЗКІ „ODI ET AMO“

* ✲ *

пацеркі слёз разарваным морам
ружанец у славуРостані
плачуць...
цягнік чакае на мяне
у восені
запазыч трывогу
аб страчаным
не гавораць...

* ✲ *

Насыплю ў імбрычак самоту
тваіх вачэй.
У кубак налью развітанне...

будзем з табою піць гарбату
адзіноты...

* ✲ *

не лічыце мяне іерогліфам бяды...

я толькі цень,
згублены ім апоўдні...

гнуткі дождж
на лісце каштанаў
асела стома гэтага дня

### ПАВЕТРАНЫЯ ШАРЫ

яны ўзляталі
і падалі
нібы мы ў тую вясну

яны былі
жоўтыя зялёныя чырвоныя
і мелі свой сэнс
такі незразумелы,
бы надвячорак...
. . . . . . . . . . .

яны ўзляталі
і падалі
толькі мы
не мелі сілы
падкінуць іх у неба...

### ВОСТРАЎ

Снег салёны на возера
сыпле неба
аморфнасць цела пакрыла свет...
гэта востраў.

Неба плача крыкамі слёз
вечны гвалт
у чарзе за цяплом і Радзімай...
гэта птушкі.

Сутыкненне халоднага і жывога
паралельна супрацьлегласці
дысгармонія...
топяцца птушкі ў востраве.

### ODI ET AMO

Дзве гадзюкі спляліся навекі,
атруту змяшалі з даждждом.
А ціхія ветры разнеслі па свеце
сіроцтвы прысуд і праклён.

* ✲ *

у Бельску
ціхія ночы й халодны ранак
сустракаюць ветліва
кветкі
п'юць з маіх рук
у Бельску
ёсць спакой
і жыве Беларусь побач
з precz і непрыкаваным хамствам
у Бельску
можна піць гарбату
і слухаць Данчыка
толькі
у Бельску
. . . . . . . . . . .
я хачу нарадзіцца
у Бельску

# У ДАПАМОГУ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

Апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў, старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі а. Аляксандр Надсон з нагоды Вялікага посту выдаў лістоўку з вялікапоснымі разважаннямі. У ёй а. Аляксандр Надсон звяртаецца да вернікаў з наступнай прапановай:

„Апошнім часам на Захадзе стаўся даволі пашыраным звычай г.зв. сямейнага посту. Сутнасць яго ў тым, што сем'і заахвочваюцца пасціць шчыра адзін дзень падчас Вялікага посту, а заашчаджаныя такім чынам грошы аддаць на дабрачынную мэту.

**Прапаную, каб беларусы, ідучы за гэтым прыгожым прыкладам, правялі дзень сямейнага посту ў пятніцу 6 красавіка, а заашчаджаныя грошы аддалі на фонд дапамогі ахвярам чарнобыльскай аварыі.**

Аб жахлівых выніках чарнобыльскай трагедыі мы даведваемся ўсё больш з кожным днём. Не будзе перабольшаннем сказаць, што вынікі яе паставілі пад загрозу фізічнае існаванне нашага народа або прынамсі вялікай ягонай часткі. Дык хай наша ахвяра будзе злучаная з гарачай малітвай да ўсядобрага і ўсеміласэрнага Госпада Бога, які памёр на крыжы і ўваскрос, каб нам мець вечнае шчасце: хай Ён змілуецца над беларускім народам, і, пасля ўсіх цярпенняў, дасць яму таксама ўваскрэснуць да лепшага, шчаслівага жыцця, каб яму вечна славіць Ягонае вечнае і цудоўнае Імя."

Ахвяры можна слаць на адрас:

Byelorussian Radiation Relief Appeal,
Marian House,
Holden Avenue,
London N12 8HY

Чэкі і грашовыя пераводы трэба выстаўляць на: Byelorussian Mission Trust (Radiation Relief).

## РЫБАГАДОЎЧЫЯ РАЁНЫ

Мінулай восенню ваявода беластоцкі выдаў распараджэнне аб устанаўленні васьмі рыбагадоўчых раёнаў на водах, асабліва прыдатных для вядзення рыбагадоўлі ў Беластоцкім ваяводстве. Знаходзяцца яны ва ўрочышчы Ярашоўка (гм. Васількаў), у вёсках Турасьнь-Касцельная, Невадніца-Касцельная, Страбля, Лысае (дзве апошнія ў гм. Вышкі), Яцэвічы (гм. Бельск-Падляшскі), а таксама ў мясцовасцях Папялёва (гм. Крыпна), Кнышын, Чэхавізна і Агароднікі (гм. Кнышын). Разам займаюць яны плошчу 758,21 га. Уласнікамі раёнаў і правамоцнымі да вядзення рыбалоўства з'яўляюцца Дзяржаўная рыбагадоўчая гаспадарка ў Кнышыне і грамадзяне Язэп Дрыль, Казімір Карны, Віктар Казырскі, Лешак Лясноўскі і Славамір Лапінскі.

**Пётр Байко**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Старая хата ў Сламянцы. Малюнак У. Петрука.*

## ПЕРШЫ РАЗ

Я многа разоў думала, каб так выйсці на сцэну і заспяваць, але ўсё не хапала адвагі. У гэтым годзе я рашылася: каб тут невядома што — выйду і заспяваю песні, якія спявала мне бабуля! Выбрала „Калядную" і „Кася й Ясё".

Якраз у дзень раённага конкурсу мне выпала працаваць. Я дагаварылася на падмену, але не да канца змены, і пайшла ў гайнаўскі „Гурнік".

Віктар Стахвюк гаварыў аб патрэбе арганізацыі беларускай партыі, а пасля вучні гайнаўскага белліцэя выклікалі спевакоў. Мне найбольш у катэгорыі сучаснай песні падабаліся выступленні „Дубіноў" і вучняў гайнаўскага белліцэя.

Пачаўся конкурс фальклорнай неапрацаванай песні. Я выйшла на сцэну і адчула, быццам усё ўсярэдзіне калоціцца і падгінаюцца ногі. Як на іронію, некалькі гледачоў пачало мяне апладзіраваць. Гэта трохі мяне рассмяшыла.

Спяваючы, я старалася не глядзець на публіку. Думала, што са страху ўпаду са сцэны. З нерваў пад канец апошняй песні заняло ў мяне дух.

Я села на месца, прызначанае для публікі. Калі на сцэну выйшла Марыя Аліфер з Ляўкова, мне стала сорамна за сваё выступленне. Марыя вяла сябе ўпэўнена і спявала цудоўна. „Вось так трэба!" — дакарала я сябе ў думках.

Скончыўся агляд. Я чакала вынікаў, але не дачакалася. Трэба ж было вяртацца да працы.

У аўторак я пайшла ў памяшканне БГКТ, каб купіць каляндар, і тут — сюрпрыз! Ёля Вішнеўская сказала: „Віншую з другім месцам". Я не магла паверыць!

У апошні панядзелак перад цэнтральным аглядам я нарабіла сабе бяды. Прыехала з начной змены ў бальніцы і, змучаная, лягла адпачыць. Захацелася мне піць. Нічога цёплага не было, і я напілася халоднай вады. Вядома — адразу хрыпата. Я лячыла горла ліпавым цветам і мёдам, але ці ж вылечышся так хутка, як захварэеш?

Усё-такі я вырашыла паехаць. Хацелася паслухаць, як іншыя будуць спяваць і змагацца з хваляваннем.

Напэўна, нялёгка было камісіі — усе спявалі цудоўна! Я сама, уваходзячы на сцэну, ужо не баялася, але пры першых словах у мяне заняло дух. Пасля спявала так вымерваючы дыханне, што аж... у грудзях свісцела! Што ж, няўдалы быў гэты спеў... Аднак, я не шкадую, што была ў Беластоку.

Я думаю, што трэба, каб многа людзей прымала ўдзел у такім конкурсе. Няма чаго саромецца, найважнейшае — не быць трусам і выйсці на сцэну. Не ўсе ж могуць быць першымі!

**Аўрора**

# У ВІЛЬНІ




Вільня... Канстанцін Пятровіч Новікаў нарадзіўся тут у 1921 годзе, вучыўся ў школе „Апекі Прачыстай Дзевы Марыі", ваяваў і за гэты горад, біўшы нямецкіх, а затым і японскіх фашыстаў. Вярнуўся сюды ў 1947 годзе, працаваў і далей працуе. Ніколі не навучыўся гаварыць па-літоўску, хаця многае разумее. На пытанне, заданае яму на літоўскай мове, адказвае па-руску.

— Дзе знаходзіцца вуліца Арклю?

— А што гэта значыць па-літоўску, гэтае слова? А, конь! Конская вуліца? Вось гэта.

Аднойчы на адказ па-руску літоўскія хлопцы абазвалі яго „вялікарускім шавіністам", які павінен пайсці вон з іх краіны!

— А адкуль вы тут, у Вільні, узяліся? Я сам тут нарадзіўся, вучыўся, усё жыццё працаваў, кроў праліваў. Гэта мой горад і мая краіна!

Хлопцы папрасілі прабачэння ў Канстанціна Пятровіча.

Ганна Ільічна, жонка Канстанціна Пятровіча, украінка, з якой ён пазнаёміўся ў друкарні, частуе нас гарачай кавай. На дварэ сакавік, месяц вялікіх падзей у Літве, сячэ мокрым снегам і пранізлівым ветрам.

Канстанцін Пятровіч паказвае свой архіў. Ёсць тут і газеты, у якіх ён друкаваў свае інфармацыі і пераклады вершаў, лісты, ёсць і апошнія нумары „Чырвонага штандару", „Доокола сьвята", ёсць „Л'юманітэ" з вялікімі чыстымі палямі, дзе мачалі свае пальцы цэнзары. Ляжыць схема чыгуначных дарог СССР: вось аж з Дайрэна (Дальний), Посьета, берагоў Жоўтага мора вярнуўся ў Вільню...

— Вайна мяне застала ў ваяводскім тады горадзе Вілейцы, калі пасля выпуска нядзельнага нумара газеты („Вілейскай праўды") давялося яе зранку перабраць, каб замясціць першыя паведамленні аб пачатку вайны. Эвакуіравалі нас у Горкаўскую вобласць. Працаваў у калгасе, на ільнозаводзе. Пасля — ваенная служба на Далёкім Усходзе. Ужо ў палавіне 1942 года нас перакінулі на Захад, дзе я трапіў у Балахну, пазнаёміўся са станкавым кулямётам. Цікава, што ў нашай групе, якая ў лютым-сакавіку прымала ўдзел у баях пад Аляксееўкай, было чацвёра вільнян усе рознай нацыянальнасці: 1 нумар — Рапшыс, 2 — я, 3 — яўрэй Солечнік і 4 — паляк Пецюкевіч... 17 сакавіка я быў цяжка паранены і мяне зноў павезлі на Усход — Елец, Разань, Свярдлоўск... Пасля пяцімесячнага лячэння і кароткай перадышкі я трапіў на Калінінскі фронт, але ўжо як сувязіст 544 мінамётнага палка, а пасля стаў наборшчыкам дывізіённай газеты „Гвардейский удар". І тут я сустрэўся з землякамі, калі наша 6-ая артылерыйская дывізія прарыву на адным з участкаў разгрому Курляндскай групоўкі падтрымлівала агнём 16 Літоўскую дывізію. Дзень Перамогі мяне застаў 8 мая пад Рыгай. Да раніцы грымелі салюты. Аднак, вайна не для ўсіх скончылася. Давялося мне ехаць на Усход, прымаць удзел у разгроме японскай Квантунскай групоўкі. Пасля дзесяткаў тысяч кіламетраў ваенных дарог, вярнуўся я ў родную Вільню. Ляжала яна ў папялішчах. Вы не пішыце пра мяне! Я шэры чалавек, нічога для беларускай культуры асаблівага не зрабіў, можа трошкі больш для польскай, працуючы лінатыпістам, і цяпер, на пенсіі, тэлетайпістам у „Чырвоным штандары" (цяпер — „Кур'ер віленскі")...

— Праўда, дзякуючы, між іншым, вашым лістам у цэнтр у 1957 г., у якіх вы звярнулі ўвагу вярхоў на тое, што ўсё ж засталіся на Літве нацыянальныя меншасці, якія маюць права да дапамогі ў развіцці сваёй культуры, можна было выдаваць газету на польскай мове. А што значаць для вас дэдыкацыі першага наборшчыка кніг Максіма Танка і Міхася Машары? Вось ліст з „Нарачанскай зары" (1971 г.): „У музеі горада Маладзечна я выпадкова даведаўся, што вы з'яўляецеся першым наборшчыкам кніг Максіма Танка. Калі ласка, апішыце тыя нялёгкія і суровыя часіны, успомніце пра той перыяд жыцця М. Танка, раскажыце пра ўжовы жыцця і працы друкароў, пра той нялёгкі шлях, які прабівала сабе беларускае слова..."

— Вы складалі „Беларускі фронт" і „Беларускі летапіс"...

— Я толькі абцёрся крыху аб вялікіх людзей. Мой уклад ва ўсё гэта быў невялікі! Сустрэнемся лепш з „Сябрынай", там

# МІНСК, 25 ЛЮТАГА

100 тысяч людзей прыйшло на перадвыбарчы мітынг на плошчы Леніна каля Дома ўрада ў Мінску. Мітынг, арганізаваны Беларускім народным фронтам, быў „несанкцыяніраван", хаця тым разам, як кажуць, і ўлада была з народам: перад людзьмі выступіў, між іншымі, I сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў.

Мітынг прыняў зварот з патрабаваннямі роспуску Цэнтральнай выбарчай камісіі, адстаўкі Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, судовага расследавання дзейнасці кіраўнікоў Рэспублікі ў сувязі з чарнобыльскай трагедыяй, абвяшчэння Беларусі зонай экалагічнай бяды і пазбаўлення сродкаў масавай інфармацыі ад партыйнага дыктату.

Чытачам „Нівы" прапануем фотарэпартаж Кастуся Войткі з мітынгу ў дзень 25 лютага 1990 г. у Мінску.

(ям)







**1. Шэсце па Ленінскім праспекце.**

**2. На плошчы Леніна.**

**3. Перад мікрафонам Яфрэм Сакалоў (у шапцы). Крайні злева — Зянон Пазняк.**

**4. Яфрэм Сакалоў ахвяруе 5 рублёў у скарбонку БНФ.**

# УЗЯЦЬ СВОЙ ЛЁС У СВАЕ РУКІ

**(Працяг са стар. 1)**

на на 1000 дзялянак. Пакуль што, на паперы. Маюць узнікнуць дамы адпачынку, такія летнія дачы для людзей з грашмі. Толькі ў якія руکі перападуць тыя дзялянкі? Зямля з'яўляецца ўласнасцю гміны, распараджацца ёю будзе гмінная самаўправа. Ці купіць яе першы лепшы багаты? Тут трэба розуму і прадбачлівасці. Бо можна справу павярнуць і ў такі бок, што Семяноўскае вадасховішча стане для Нараўчанскай гміны „залатым кладам". На турыстыцы і адпачынку можна добра зарабіць. Але трэба мець сваю паслуговую інфраструктуру (крамы, рэстараны, бары, сваю пякарню і ўсё такое). Будзе праца для людзей на месцы, і ладны грош будзе пхацца ў рукі. Аднак справа ў тым, што Нараўчанская гміна бедная. Без капіталу не размахнешся. Прысутныя на сходзе пагаджаліся са мною, што нельга дапусціць да такой сітуацыі, калі знімо вакол вадасховішча захопіць нейкі крыважэрны манапаліст і пабудуе нейкі пачварны турыстычна-адпачынкавы комплекс. Ён то заробіць, а гміне што? — фіга з макам. Трэба, каб грошы галоўным чынам траплялі ў гміну, каб багацелі людзі, што ў ёй жывуць. Толькі дзе знайсці той капітал на пачатак?

— Хлопцы, рушце мазгамі, падшукайце нам нейкага беларуса-мільянера на Захадзе, які б захацеў нам дапамагчы і сабе граша прыдбаць, — прасілі нас нараўчане на сходзе. — Можна было б стварыць на пачатак беларуска-беларускае „joint-venture" з паловаю капіталу ў цвёрдай валюце.

Што далей? Дарогі і тэлефоны, або, як кажуць у войску, шляхі сувязі. Тут таксама невясёла. Каб дазваніцца з Беластока ў Нараўку, трэба круціць праз Гайнаўку. А на пошце ў Нараўцы сядзіць паненка і спалучае ўручную. Трэба паставіць аўтаматычную тэлефонную станцыю.

Трэба пакласці асфальт на дарозе Ляўкова-Ляшукі-Сушча. І таксама — з Гушчэвіны ў Масева. Бо і чорт скруціць ногі на тых дарогах.

Вось такія праблемы ў гміне „ўсходняй сцяны".

— Тут справа пойдзе, — кажа мне Віктар, калі мы ўжо залазім у машыну вяртацца ў Беласток.

Нехта гукае з густога прыцемку:

— Максімюк, стой!

Гэта Павел Харкевіч, малады інжынер з керамічнага завода ў Ляўкове.

— Ці не мог бы ты напісаць, што ў нас цэгла ляжыць? Людзі шукаюць цэглу па ўсёй Польшчы, а ў нас яе ўдосталь і то па канкурэнцыйнай цане.

Чаму ж не, напішу.

У Ляўкове маюць цэглу трох відаў: „50", „100" і „150" (што гэтыя лічбы значаць, я не бяруся тлумачыць). Цана адпаведна па 2200, 2800 і 3000 злотых за штуку. І маюць яшчэ шчыльнавую цэглу (пустакі) КЗ па 2300 злотых. Так. І яшчэ маюць нейкую штуку, вельмі патрэбную будаўнікам, я забыўся што, бо тады ніяк не мог перакласці тае назвы на беларускую мову. Ну, каго цікавіць, то можа пазваніць у Ляўкова. Дазваніцца, усё-такі, можна.

У Нараўчанскай гміне людзі пачалі думаць аб сваім паратунку. І гэта непазбежнае. Урад, заняты ўсталёўваннем нейкага асаканелага капіталізму, не аглядаецца на ахвяры. Самі ратуйцеся.

Бяры свой лёс у свае рукі і кіруй ім.

Возьмем.

**Ян Максімюк**

Фота Я. Целушэцкага



**Семяноўскае вадасховішча: велізарная інвестыцыя, у якой утапіліся цяжкія мільёны.**

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 14 —**

Немцы звярнуліся перш за ўсё да беларусаў. Пакуль што былі яны народам найбольш прывілеяваным. Побач з польскай і літоўскай, беларуская мова стала ўрадавай. Як ужо гаварылася, нямецкія ўлады пачалі падтрымліваць і ствараць беларускае школьніцтва. Акупацыйныя ўлады стварылі беларускі часопіс „Гоман", у якім працавалі, між іншым, Іван і Антон Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі. У часопісе гэтым Антон Луцкевіч развіваў акцыю ў кірунку стварэння беларуска-літоўскай дзяржавы. У гэтай справе варта прывесці артыкул, у якім думка аб адбудове былога Вялікага княства Літоўскага як незалежнай дзяржавы выступае вельмі выразна.

„У апошнім годзе жыцця, калі справа вызвалення Літвы і прынамсі часткі Беларусі, занятай нямецкімі войскамі, паставілена на парадку дня, грамадская думка беларусаў і літоўцаў стварыла палітычную ідэю, якая выразна гаворыць аб незалежным быцці даўняга Вялікага княства Літоўскага. Новая краёвая палітычная формула адкідае пры гэтым усе тыя абмежаванні, якія хочуць накінуць нам чужыя людзі, якія прыехалі з суседняй Польшчы. Ані белару-

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

### 7. Прыметнік — працяг.

Якасным прыметнікам характэрна тое, што могуць утвараць ступені параўнання.[1] Ступені параўнання не ўтвараюць якасныя прыметнікі тыпу *глухі, сляпы,* калі выступаюць у прамым значэнні.

Ёсць дзве ступені параўнання: *вышэйшая (кампаратыў)* і *найвышэйшая (суперлатыў).*

Формы ступеняў параўнання бываюць *простыя (сінтэтычныя)* і *складаныя (аналітычныя).*

Вышэйшая ступень параўнання паказвае на большую ці меншую ступень якасці прадмета (асобы, паняцця) у параўнанні з іншым прадметам (асобай, паняццем).

Простая форма ступені ўтвараецца пры дапамозе суфікса *-ейш- (-эйш-),* які далучаецца да асновы зыходнай формы якаснага прыметніка: *смел(ы) — смялейш(ы); чырвон(ы) — чырванейш(ы).* Пры гэтым могуць адбывацца ў аснове прыметніка такія змены, як: выпадзенне суфіксаў *-ок-* і *-к-: глыбок(і) — глыбейш(ы), нізк(і) — ніжэйш(ы)* і чаргаванне канцавых зычных: *дараг(і) — даражэйш(ы), ціх(і) — цішэйш(ы).*

Некаторыя прыметнікі вышэйшую ступень параўнання ўтвараюць пры дапамозе суфікса *-ш-,* які далучаецца да суплетыўных асноў: *вялік(і) — больш(ы), мал(ы) — менш(ы), добр(ы) — лепш(ы), дрэнн(ы), кепск(і) — горш(ы).*

Пры дапамозе суфікса *-ш-* утвораны формы *малодшы* і *старшы.* „Прыметнікі *малодшы* і *старшы* (...) звычайна выкарыстоўваюцца ў складзе тэрміналагічных спалучэнняў *малодшы (старшы) навуковы супрацоўнік, малодшы (старшы) лейтэнант* і не маюць значэння вышэйшай ступені. Праўда, слова *малодшы* часам выкарыстоўваецца (паралельна з *маладзейшы)* як форма вышэйшай ступені ад *малады:* „Брат *малодшы* за яго на два гады" (Кр.)[2].

Як відаць вышэй, пры параўнанні залежнае слова (назоўнік, займеннік) ставіцца ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за: ён старэйшы за брата, клён вышэйшы за вярбу.* Магчыма таксама выкарыстанне роднага склону з прыназоўнікам *ад: лета цяплейшае ад вясны,* або параўнальных зваротаў са злучнікамі *чым, як: летняя ноч карацейшая, чым зімовая; сёння яблыкі спялейшыя як два тыдні таму назад.*

„Простыя формы вышэйшай ступені ўтвараюцца не ад усіх якасных прыметнікаў. Так, іх не маюць якасныя прыметнікі з суфіксамі *-ав-, -іст-, -аўн-, -ат-, -к-* і інш.: *перадавы, агністы, сакаўны, шурпаты, ліпкі.* Гэтыя прыметнікі першапачаткова былі адноснымі, пазней яны або канчаткова перайшлі ў якасныя, або выступаюць з абодвума значэннямі — якаснымі і адноснымі; параўн. *перадавая лінія фронту і перадавыя рабочыя; баявы зарад і баявы хлопец*".[3]

Складаная форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння да якаснага прыметніка прыслоўя *многа, мала* ў вышэйшай ступені: *больш (болей), менш (меней): дружны — больш (менш) дружны, кіслы — больш (менш) кіслы.*

Складаныя формы вышэйшай ступені параўнання ўтвараюцца амаль ад усіх якасных прыметнікаў, напр. *духмяны — больш (менш) духмяны;* простая форма тут немагчымая.

Пры складанай форме вышэйшай ступені параўнання выкарыстоўваюцца параўнальныя звароты за злучнікамі *чым, як: Валодзя больш рашучы, чым яго бацька; бетон больш цвёрды, як жалеза.*

Да вышэйшай ступені параўнання могуць далучацца часціцы *яшчэ, куды,* якія маюць узмацняльнае значэнне, параўн. *сільнейшы — куды сільнейшы, весялейшы — яшчэ весялейшы, больш рашучы — яшчэ больш рашучы.* Формы параўнання з часціцамі *яшчэ, куды* паказваюць на большую ступень якасці, чым без гэтых часціц — *павышаны кампаратыў.*[4]

Простая форма найвышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння да простай формы вышэйшай ступені прэфікса *най-: вышэйшы — найвышэйшы, маладзейшы — наймаладзейшы, горшы — найгоршы, меншы — найменшы.*

Складаная форма найвышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам далучэння да якаснага прыметніка прыслоўя *многа, мала* ў форме найвышэйшай ступені — *найбольш, найменш: найбольш (найменш) шчаслівы, найбольш (найменш) цікавы,* або займенніка *самы: самы шчаслівы, самы цікавы.*

---

[1] Гутаркі..., „Ніва" № 11.

[2] П. У. Сцяцко, Прыметнік, Сучасная беларуская літаратурная мова, Марфалогія, пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 93.

[3] Там жа, с. 93.

[4] E. Smułkowa, Konstrukcje porównawcze typu gradacyjnego w języku białoruskim, Zagadnienia kategorii stopnia w językach słowiańskich pod. red. H. Orzechowskiej, Warszawa 1976, s. 116—117.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Тры гады мы былі неразлучныя. Калі пазнаёміліся, мне было 20 гадоў, а яму 25. Усюды бывалі разам. Ездзілі на розныя экскурсіі (мы разам вучыліся ў вышэйшай школе). Ён скончыў навуку першы, але наша сяброўства працягвалася. Аднак жа з часам я пачала заўважаць, што ў яго паявіліся новыя сяброўкі па рабоце. Людзі таксама даносілі мне, што бачылі яго то з адной, то з другой дзяўчынай. Калісьці мы выбраліся з ім на забаву, якую арганізоўвала яго ўстанова, а дахаты давялося ісці адной, бо мой хлопец мусіў адвезці сяброўку з работы. Ад таго часу я пачала адносіцца да майго хлопца насцярожана. Было мне вельмі крыўдна, што ён мяне так патрактаваў. Канец, думалася мне, гэта ўжо канец. Аднак жа сустрэліся мы яшчэ некалькі разоў. Я плакала, дакарала яго, не разумела яго няшчырасці ў адносінах да мяне. Ён жа быў маім першым і адзіным хлопцам. Аднак жа ён быў няўмольны. Апошнім разам прызнаўся, што, маўляў, так і так, кахаў мяне першыя два гады, а пасля вось прайшло. Сёння падабаецца, сказаў, яму толькі адна дзяўчына, менавіта тая, якую ён адвозіў дахаты, пакінуўшы мяне адну на людскія насмешкі.

Пасля гэтай размовы я вырашыла, што нічога больш нас не спалучае, і схавалася ў цень. Хадзіла па вуліцах адна, як ачмурэлая. Пасля пачала зноў сустракацца з сябрамі, больш бываць у кампаніі. На мужчын, аднак, глядзець не магла. Мне здавалася, што ўсе яны здраднікі і я ніколі ўжо нікога не пакахаю. А той хлопец забаўляўся з усё новымі дзяўчатамі. Бачылі яго і тут і там, а мне было сорамна і балюча, калі трапляді мы ў адну кампанію і ўсе са здзіўленнем спаглядалі на мяне: чаму гэта ён туліцца да іншай дзяўчыны, а не да мяне... Я нікому нічога не выясняла, а толькі гаварыла, што мы ўжо не ходзім. Але ў душы я засталася яму верная назаўсёды. Я яго абдарыла сваім першым каханнем і іншага на яго месцы не магла сабе ўявіць. Так прайшло паўтара года.

У карнавале быў у нашай школе баль. Я прыйшла ў большай кампаніі, з сябрамі і сяброўкамі. Нешта калянула ў сэрцы, калі ўбачыла я там майго хлопца з прыгожай, як заўсёды, дзяўчынай. Яны вельмі сімпатычна гулялі, але пасля ён пакінуў яе ў іхняй кампаніі і падсеў да нас. Ад гэтага часу ён ужо не вярнуўся да свайго століка. Яго дзяўчына сядзела злосная, часамі нехта яе запрашаў танцаваць. Мы танцавалі разам з найдаражэйшым мне чалавекам так, як у даўнія часы. Толькі ў канцы балю ён вярнуўся да дзяўчыны, з якой прыйшоў, і правёў яе дахаты. Мы вярнуліся цэлай гурбою. Назаўтра пазваніў, чаго не рабіў паўтара года, і запытаўся, ці можам мы сустрэцца? Я згадзілася. Ад таго часу мы не расстаемся. Ізноў сталі неразлучнай парай. Мае бацькі непакояцца, кажуць, што ён зноў ашукае, а я стараюся ім гаварыць як мага менш і веру ў адно — у каханне. Скажы, Сэрцайка, ці не раблю я зноў памылку і ці можна быць упэўненым, што цяпер ужо ўсё будзе добра?

**Тамара**

Тамара! Ніколі нельга быць у ста працэнтах упэўненым у каханні. Бывае так, што яно прыходзіць і адыходзіць. Выходзячы замуж ці жэнячыся, фактычна няма ўпэўненасці, што каханне датрывае да канца жыцця, хаця б чалавек даваў невядома якія прысягі. Аднак жа ў тваім выпадку ёсць нейкі іншы фактар. Твой хлопец, які быў з табою тры гады і ведаў цябе добра, а пасля паўтара года скакаў па іншых, напэўна пераканаўся, што ў жыцці добрае, вартаснае, а што — бессэнсоўнае. І думаю, у гэтым твая сіла і надзея.

**Сэрцайка**

P.S. Усё ж твой хлопец змяніўся — дзяўчыну, з якой быў на балі, дахаты правёў!






### ЯЙКІ ПА-ВЕНСКУ

Памыць яйкі, палажыць у кіпячую ваду, варыць тры мінуты. Выняць яйкі са шкарлупін і ўкінуць іх у падагрэтыя шклянкі. У кожную порцыю палажыць 1/4 лыжачкі масла, дадаць солі і перцу. Есці з булкай ці хлебам.

### САЛАТА З ЯЕК І ХРЭНУ

Зварыць 5—6 яек (варыць 10 мінут), дадаць да іх 5 дэкаў хрэну, лімонны сок, 3/4 шклянкі густой смятаны, 1 яблык, соль і цукар па смаку.

Памыць хрэн, аскрэбсці яго і сцерці на тарцы. Спырснуць лімонным сокам, пасаліць, перамяшаць. Абабраць крутыя яйкі і дробна пасячы іх, перамяшаць з хрэнам і смятанай. Яблыкі памыць, абабраць і сцерці на гароднінай тарцы, дадаць да салаты, перамяшаць. Дадаць па смаку солі, цукру і лімоннага соку. Калі хрэн вельмі моцны, дык можна дадаць крыху дробна нарэзанай варанай бульбы або дадаць больш яблыкаў. Салату падаваць адразу ж пасля падрыхтоўкі, есці з хлебам ці булкай.

### ЯЕШНЯ З ГРУДЗІНКАЙ

На 4—8 яек трэба ўзяць 3—6 дэкаў вэнджанага бачку, 2—4 лыжкі малака, соль, перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі.

Бачок ачысціць, нарэзаць дробным макаронікам і крыху падсмажыць на патэльні. Тады разбіць на яго яйкі. Смажыць на невялікім агні, размешваючы лыжкай. Гатовую яешню пакласці на падагрэтыя талеркі. Пасыпаць зялёнай цыбулькай. Падаваць з хлебам і салатай з памідораў.

**Гаспадыня**

# ВЕР-НЕ ВЕР

**Дарагі Астроне! Прысніўся мне такі сон. Няньчыла я наймалодшага ўнука. Нібыта жывем мы там, дзе калісьці жылі, на старой кватэры. Я з унукам пайшла на шпацыр. І ён кудысьці западзеўся. Шукаю я яго, а тут нейкі мужчына кліча мяне і гаворыць: „Ідзі сюды, ён тут у блёку". Я іду да яго. І разам ідзем як бы ў склеп. Там мой унучак — скалечаны, акрываўлены. Гэты мужчына не пускае мяне да яго, каб я не забрудзілася крывёю. Падае мне яго сам. Але ўжо ў мяне на руках унучак і я крыві не бачу. Толькі вось нейкая пластмасавая лапатка ўбілася яму ў задніцу. Я вельмі занепакоілася. Як жа яе выняць, я не змагу сама гэта зрабіць. Нясу я малога дахаты. Паказваю зяцю, і ён акуратна і спрытна выняў гэту лапатку. Ну і я ў хаце зяця, у кухні. На стале стаяць нейкія дэкаратыўныя талеркі, у якіх зроблены дзіркі для кветак. Я бяру белыя кветкі, скарочваю іх і ўсаджваю ў гэтыя дзіркі. Выглядае гэта прыгожа. У хаце ёсць яшчэ больш прыгожых кветак. Ну, і прачнулася. Што можа абазначаць гэты мой дзіўны сон?**

**І яшчэ такі сон мне сніўся.**

**У вялікім пакоі ў маёй кватэры многа дзяцей. Ёсць унукі, але і яшчэ іншыя нейкія дзеці. Тут і персанальная з прадпрыемства, дзе я працую, з маленькай дачушкай. І што дзіўнае, усе дзеці апранутыя, а яна, гэтая маленькая дзяўчынка, зусім голая. Я хачу яе апрануць, шукаю ёй вопраткі. Але і я голая. І тут уваходзіць мая старэйшая дачка, я саромлюся, стараюся, каб яна мяне не ўбачыла. Усё адбываецца ўвечары, у пакоі цёмна, але святла не запальваем. Потым ужо я пры балконных дзвярах — яны цалкам шкляныя і пры іх стаіць кветка, такая разрослая, высокая, зялёная. Я гляджу і любуюся ёю. У сапраўднасці гэткая кветка вісіць у мяне на сцяне і ніяк не хоча расці, сохне і, мусіць, нічога ўжо з яе не будзе.**

**Вера**

**Вера! Што датычыць першага твайго сну, дык думаю, што датычыць ён хваробы твайго ўнука. Аднак жа скончыцца павінна ўсё добра, бо пасля гэтага ў тваім сне былі кветкі.**

**Другі твой сон прадвяшчае для цябе нейкую страту. Аб гэтым сведчыць тая голая дзяўчынка, ды і ты ж была голая. Магчыма, будзе гэта звязана з тваімі заробкамі, паколькі прыснілася табе ваша персанальная. Аднак жа тая зялёная кветка дае шанцы на надзею.**

**Астрон**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Уолт Дысней




Частка 2.

Пачатак у папярэднім нумары

Ніякія ў свеце зверы,
Злыя зверы, злыя зверы,
Не адчыняць мае дзверы,
Мае дзверы, мае дзверы!

— Гэта ён пра якога звера? — запытаў Ніф-Ніф у Нуф-Нуфа.

— Гэта ты пра якога звера? — запытаў Нуф-Нуф у Наф-Нафа.

— Гэта я пра ваўка! — адказаў Наф-Наф і паклаў яшчэ адну цагліну.

— Ён баіцца ваўка! — сказаў Ніф-Ніф.

— Ён баіцца, што яго з'ядуць! — дадаў Нуф-Нуф.

І браты яшчэ больш развесяліліся.

— Якія тут могуць быць ваўкі! — хрукнуў Ніф-Ніф і ўзяўся за сваю флейту.

— Ніякіх ваўкоў няма! Ён проста баязлівец! — сказаў Нуф-Нуф, настройваючы сваю скрыпку.

І абодва яны зайгралі і заспявалі:

Нам не страшны шэры воўк,
Шэры воўк, шэры воўк.
Дзе ты ходзіш, дурны воўк,
Стары воўк, страшны воўк?



Але Наф-Наф нават не абярнуўся.

— Пойдзем, Нуф-Нуф, — сказаў тады Ніф-Ніф. — Нам тут няма чаго рабіць. Мы не любім баязліўцаў!

І браты пайшлі гуляць.

Па дарозе яны спявалі і гралі, а калі ўвайшлі ў лес, то ўзнялі такі шум, што абудзілі ваўка, які спаў пад хвояй.

— Што за шум? — незадаволена прабурчэў злы і галодны воўк і паскакаў да таго месца, адкуль даносіўся віск і хрюканне двух маленькіх неразумных парасятак.

— Ну, якія тут могуць быць ваўкі! — казаў у гэты час Ніф-Ніф, які ваўкоў бачыў толькі на карцінках.

— Вось мы яго схопім за нос, будзе ведаць! — падміргнуў Нуф-Нуф, які таксама ніколі не бачыў жывога ваўка.

— Павалім, ды яшчэ звяжам, ды яшчэ нагой вось так, вось так! — хваліўся Ніф-Ніф і паказаў, як яны будуць расправляцца з ваўком. І браты зноў расхрукаліся і заспявалі:



Нам не страшны шэры воўк,
Шэры воўк, шэры воўк.
Дзе ты ходзіш, дурны воўк,
Стары воўк, страшны воўк?

І раптам яны ўбачылі сапраўднага жывога ваўка!

Ён стаяў за вялікай хвояй, і ў яго быў такі страшны выгляд, такія злыя вочы і такі зубасты зеў, што ў Ніф-Ніфа і Нуф-Нуфа па спінках прабег халадок і тонкія хвосцікі дробна-дробна задрыжэлі. Бедныя парасяткі не маглі нават зварухнуцца ад страху.

Воўк падрыхтаваўся да прыжка, шчаўкануў зубамі, міргнуў правым вокам, але парасяткі раптам апамяталіся і, узняўшы віск на ўвесь лес, кінуліся на ўцёкі.

Ніколі яшчэ не прыходзілася ім так шпарка бегаць.

Мільгаючы пяткамі і ўзнімаючы хмары пылу, яны несліся кожны да свайго дома.

Ніф-Ніф першы дабег да сваёй саламянай хаціны і ледзь паспеў захлопнуць дзверы перад самым носам ваўка.

— Зараз жа адчыні дзверы! — прарычэў воўк. — А інакш я іх выламаю!



— Не, — прахрукаў Ніф-Ніф, — я не адчыню!

За дзвярыма было чуваць дыханне страшнага звера.

— Зараз жа адчыні дзверы! — прарычэў зноў воўк. — А не то я так дуну, што ўвесь твой дом разляціцца!

Але Ніф-Ніф нічога ўжо не мог адказаць ад страху. Тады воўк пачаў дуць: „Ф-ф-ф! У-у-у!"

З страхі зляталі саломінкі, сцены дома трэсліся.

Воўк яшчэ раз глыбока ўздыхнуў і дунуў у другі раз: „Ф-ф-ф! У-у-у!"

(Працяг будзе)



## ЦІ МОЖА ТАКОЕ ЗРАБІЦЬ ЧАЛАВЕК?

Снедаў я за кухонным сталом. За шыбінай, на падаконніку, сядзеў нерухома сумны сівы голуб, углядаючыся ў мяне прашальным зрокам. Шкада мне зрабілася галоднай птушкі. Далікатна прыадчыніў я акно і працягнуў руку з крошкамі хлеба. Здзівіла мяне, што птушка не кранулася з месца, толькі прагна пачала дзяўбсці крошкі на маёй далоні. Калі ўжо іх не стала, раптам голуб страпянуўся і пачаў прасоўвацца да мяне ў прыадчыненае акно. І тады толькі ўгледзеў я з жахам, што голуб стаіць на левай назе, падпіраючыся аб падаконнік растапыраным правым крылом. Жудасна тырчэла кукса правай нагі з пакамечанай абвіслай скурай. Тады толькі я зразумеў, што птушка трапіла ў бяду — вырвалася з няволі ў бяздушнага азвярэлага чалавека. У страшэннай барацьбе за жыццё голуб пакінуў злачынцу ў сіле сваю нагу. Проста неверагодна, што голуб, якому забойца прызначыў смяротны прысуд, не страціў даверу да чалавека.

Ёсць такая пагаворка: „Чалавек з галубіным сэрцам". Задумваюся, ці наогул мае сэрца чалавек, што ставіць сіло на галубоў. Галубы — гэта ж сімвал міру!

Віктар Швед

## Не шкадуй

На ўроку малявання настаўніца сказала:

Сёння намалюеце дошку, якая вісіць на сцяне. Я хачу ведаць, як вы звяртаеце ўвагу на прадметы і як умееце выкарыстоўваць колеры. Малюйце каляровымі алоўкамі.

Настаўніца села за стол і пачала чытаць кніжку, а вучні ўзяліся за маляванне.

Мірэк забыўся прынесці з дому каляровыя алоўкі.

— Што рабіць? — думаў ён. — Можа трэба было б пазычыць, але ў каго? Юзік прасіў пазычыць гумку, дык я яму адказаў, што трэба мець заўсёды ўсё сваё. Марыся і Ленка хацелі аднойчы клей пазычыць, а я ім таксама адказаў падобна. Наогул нікому нічога не пазычаў. Хто ж мне цяпер пазычыць?

Зазваніў званок. Вучні аддавалі свае малюнкі настаўніцы. Мірэк нічога не намаляваў. На наступны ўрок настаўніца прынесла малюнкі і сказала:

— Міраслаў, ты чаму не маляваў?

— Я забыўся прынесці алоўкі, — прызнаўся хлопец.

— Чаму не пазычыў ад сяброў?

— Я ніколі нічога нікому не пазычаў, то і мне ніхто не пазычыў бы, — сумна сказаў хлопец.

Клас дружна засмяяўся.

— Мы не такія скупыя, як ты, — загаварылі вучні.

— Мы ахвотна паратавалі б цябе ў бядзе!

— Вось бачыш, — сказала задаволеная настаўніца, — якія ў цябе добрыя сябры. Не шкадуй сябрам пазычаць, дык яны і цябе паратуюць у патрэбе.

Мірэк сядзеў увесь урок апусціўшы галаву. Яму было сорамна.

Ірына Салавей

Станіслаў Шушкевіч

### ХАТА ГУЛЬТАЯ

Меў гультай ля рэчкі хату,
Не скідаў кажух ён з плеч,
Быў з маленства ленаватым,
Раз у тыдзень паліў печ.

Дроў рашыў напілаваць,
Узлез на дуб каля ракі,
Сеў ён тварам да ствала,
Аж сагнуліся сукі.

Раптам бухнуў у вадзіцу,
Хоць было і не глыбока,
Але ж мог ён утапіцца,
Быў ад смерці недалёка.

Цягне мокры сук дубовы,
Ледзь да хаты давалок,
Кажа ўсім, мець буду дровы,
Хоць стаміўся і прамок.

І дзівак ля печы трэцца,
Ён надзеяй сябе цешыць:
— Буду я ля печы грэцца,
Сохне сук у падзастрэшшы.

## ЗРАБІ САБАЧКУ



Вазьмі два квадраты тоўстай паперы і перагні іх (мал. 1). У цябе атрымаюцца два трохвугольнікі. Адзін з іх (мал. 2) сагні па пунктырнай лініі і адрэж кавалачак, заштрыхаваны ў чорны колер. Гатова палова сабачкі (мал. 3). У другім трохвугольніку (мал. 4) трэба выразаць заштрыхаваныя месцы, атрымаецца тулава. Прыклей да галавы вочы, нос, склей яе з тулавам і не забудзься адагнуць хвосцік. Шэрстку зрабі з пакручаных палосак паперы, наклей на тулава.

(„Піянер Беларусі“)




## Вершы Віктара Шведа

### КРАСУЛЯ МО ЧЫТАЦЬ УМЕЕ?

Прыехаў да бабулі Вова.  
Здзіўляецца ўжо раз каторы:  
З поля вяртаецца карова,  
Трапляючы на панадворак.

Разумная, відаць, Красуля,  
Яна ўсё ведае і бачыць.  
Смяецца з хлопчыка бабуля:  
— Нумар жа ёсць на нашай хаце.

### ДЗЕ ТОЙ ТРЭЦІ?

Прыбегла дамоў  
Суседка да Надзі:  
— Пара тваіх сынкоў  
Крала грушы ў садзе.

— Заўжды непакой  
Выклікаюць дзеці.  
Толькі, Божа мой,  
А дзе ж гэта трэці?

### КОЛЬКІ Ж САПРАЎДЫ БРАТОЎ?

Запытала Мікалая  
Група хлапчукоў:  
— Ты прызнайся, колькі маеш  
Сапраўды братоў?

— У мяне ж, я вам клянуся,  
Толькі адзін брат.  
— Кажа ж сястра твая, Люся,  
Што два акурат.

### ВУЖАКА, ЦІ ХВОСТ САБАКІ?

У вольны ад навукі,  
Прыгожы час улетку,  
Адправіліся ўнукі  
Да лесніка — іх дзедкі.

У лесе раптам Рая  
Угледзела вужаку:  
— Вось дзіва, хвост віляе,  
А не відаць сабакі.

### РЫХТУЙСЯ ЛЁВА ДА РАЗМОВЫ

Прызнаўся мамусі  
Да двух двоек Лёва.  
— Дык цяпер рыхтуйся  
З бацькам да размовы.

Мама нечакана  
Азвалася зноўку:  
— Муж падрыхтаваны,  
Рыхтуйся ты, Лёўка.

### АДВЕДКІ СУСЕДКІ

— Прыйшла я вам паспачуваць:  
Няма ў вас часу выйсці з хаты.  
Надзвычай цяжка гадаваць  
Малых крыкунчыкаў-блізнятаў.

— Заўсёды ўдзень я і ўначы  
Аднолькава працую многа.  
Адно так голасна крычыць,  
Што не чуваць зусім другога.

### УЛАСНЫЯ ЗУБЫ

Сваю бабулю Любу  
Спыталася Ганулля:  
— Прыгожанькія зубы  
Уласныя ў бабулі?

— Уласныя, вядома,  
Унучка дарагая.  
За іх яшчэ я дома  
Рахуначак трымаю.



## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

Мы вучымся ў пятым класе ў Дубінах. Нас у класе 18 вучняў, 12 дзяўчатак і 6 хлопцаў. Школа размяшчаецца ў трох вёсках, таму што школьны будынак у Дубінах невялікі і стары. Усе вучні нашага класа вывучаюць беларускую мову. Урокі беларускай мовы ў нас вельмі цікавыя, займальныя. У малодшых класах мы чыталі і „Вясёлку“. Яна нам таксама падабаецца. Цяпер чытаем заўсёды „Зорку“.

Мы будзем часта пісаць да Цябе, „Зорачка“.

Вучні 5 класа,  
школа ў Дубінах.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, с. Краснае, зав. Карбышэва, д. 3, кв. 21. Багдановіч Слава (3 клас) і Багдановіч Света (7 клас).

* * *

БССР, 225710, Брэсцкая вобласць, г. Пінск, вул. Пралетарская, 13, кв. 62. Каленюк Кацярына (11 гадоў).

* * *

БССР, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, д. 84, кв. 3. Мучынская Таня (13 гадоў).

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Бульварная 33/15. Левченко Юрий (6 клас).




## МІКОЛА ГУСОЎСКІ

Нашым сучаснікам добра вядома імя Францыска Скарыны, першадрукара і асветніка, які першы сярод усходніх славян даў свайму народу друкаванае слова на роднай мове, выдатнага дзеяча эпохі Адраджэння, заснавальніка нацыянальнай традыцыі ў беларускім друкаваным пісьменстве.

Разам з тым у гэты ж час плённа развівалася літаратура на агульна прынятай і пашыранай у асветніцкіх, навуковых, універсітэцкіх колах Еўропы лацінскай мове. Гэтая плынь вылучыла шэраг бліскучых творцаў, сярод якіх на пачэсным месцы выдатны паэт-лацініст Мікола Гусоўскі.



У 1523 годзе з кракаўскай друкарні выйшла ў свет невялікага памеру кніжачка на лацінскай мове. То была „Песня пра зубра“ — кніга, створаная нашым слаўным земляком Міколам з Гусава. Радкі паэмы адкрылі еўрапейскаму чытачу амаль невядомы дагэтуль паўночны край з маляўнічай і некранутай прыродай, разнастайнейшым жывёльным светам на чале з велічнай постаццю самага магутнага яе насельніка — першабытнага волата-зубра; зямлю працавітага, гасціннага і шчырага народа, кемлівых і адважных паляўнічых, рашучых і мужных воінаў, абаронцаў роднай зямлі. Словам, са старонак паэмы паўставала ва ўсёй прыгажосці і велічы радзіма аўтара — Беларусь.

Нам мала што вядома пра жыццё Міколы Гусоўскага. Нарадзіўся ён каля 1480 года ў сям'і баярына-паляўнічага ў Гусаве — мястэчку ці вёсцы Вялікага княства Літоўскага. Грамаце ён вучыўся ў праваслаўнай школе („... свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх. ...кірыліцай пісаных вязкай“). Потым працягваў вучобу ў навучальных асяродках Вялікага княства Літоўскага, а магчыма, у суседняй Польшчы (паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, — у Кракаўскім універсітэце). Гусоўскі дасканала валодаў лацінскай моваю, грунтоўна ведаў класічную лацінскую літаратуру, іншыя навукі.

Да 1518 года Мікола Гусоўскі прыбыў у Вільню — сталіцу Вялікага княства Літоўскага. Тут ён зблізіўся з сакратаром вялікакняскай канцылярыі канонікам Эразмам Вітэліусам (Цёлкам), служыў у яго сакратаром. Тут пачалася яго творчая дзейнасць.

У 1518—1521 гадах разам з Эразмам Цёлкам, які ўзначаліў місію Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ў Ватыкане, Гусоўскі знаходзіўся ў Італіі, у Рыме. У адказ на пажаданне папы Льва X ён атрымаў ад Вітэліуса заказ на напісанне твора пра паляванне на зубра на радзіме паэта і распачаў працу над „Песняй пра зубра“.

У 1522 годзе па Італіі распаўзлася эпідэмія чумы. Ад яе гінулі тысячы людзей, памёр і Эразм Вітэліус, надзейны апякун і пратэктар паэта.

Адзінокі, не забяспечаны матэрыяльна, ён не мог доўга заставацца ў Рыме і ў 1523 годзе пераехаў у Кракаў, бліжэй да радзімы. Тут, у друкарні Ераніма Віетара, Гусоўскі выдаў свой паэтычны зборнік „Песню пра зубра“ — паэму і вершы, напісаныя ім у Італіі, з асобным прысвячэннем каралеве Боне.

У 1524 годзе Гусоўскі стварыў за адзін дзень паэму „Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы“, у якой апяваў мужнасць і гераізм простых воінаў-апалчэнцаў. З паэмы мы даведваемся пра цяжкую хваробу паэта — паралюш ног. Хворы і адзінокі, ён аднак не губляў цвёрдасці духу, нястомна працаваў і ў 1525 годзе стварыў паэму „Жыццё і дзеянні св. Гіяцынта“.

У 1531 годзе Гусоўскі — у Пултуску, на Мазоўшы, пры двары біскупа Яна Карнакоўскага.

Пасля 1533 года сляды Міколы Гусоўскага ў пісьмовых крыніцах губляюцца. Нам невядомы час і месца смерці паэта.

Аднак імя яго, вернутае даследчыкамі нашай гісторыі і культуры, і лепшы твор — сапраўдны паэтычны гімн Радзіме — „Песня пра зубра“ ў цудоўным перакладзе Язэпа Семяжона і вучаць нас трапяткой і шчырай любові да роднай зямлі, цвёрдай веры ў перамогу дабра і неўміручасць Бацькаўшчыны.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

△ + △ − △ = △  
\+ \+ \+ \+  
○ − 2 + ○ = ○  
\+ − \+ \+  
□ + □ + □ = 9  
= = = =  
6 + ⬡ + ⏢ = 12

Прыглядзіся да арыфметычных дзеянняў. Падумай! Ці зможаш сказаць, якія лікі трэба ўставіць на месца малюнкаў, каб усе дзеянні — уздоўж і ўпоперак былі правільнымі.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“.

